*ПРАФЕСІЯ*

# Пра «хуткую дапамогу» рэгулярна згадвае кожны другі жыхар краіны

**Працяг. Пачатак у №15.**

## Рэаліі нашага жыцця

А здараецца ўсякае: і роды ў машыне, і смерць. Вялікі кантакт з крывёй, шмат траўміраваных, небяспека інфіцыравацца.

Выклік на вуліцу Замкавую: ля магазіна ляжыць мужчына, з галавы цячэ кроў. Брыгада выязджае, урач і вадзіцель раяцца, дзе б гэта магло быць, бо пад'ехалі з аднаго боку – нікога няма, цяпер трэба трапна выехаць. Фельчар **Вольга Занько** падказвае:

– Трэба праехаць далей, там ёсць магазінчык, дзе і гарэлка, і піва прадаюцца...

І сапраўды, ляжыць каля таго магазінчыка ў гразі п'яны мужчына, да грудзей прыціснуты чорны ад бруду батон. Нарад міліцыі ўжо тут, але лоб у выпівохі глыбока рассечаны, цячэ кроў, таму міліцыянеры яго не чапаюць, гэта ўжо не іх "кліент". Яны чакаюць прыезду "хуткай".

– Вось, паглядзіце, якія "хворыя" у нас бываюць, – Вольга Іванаўна спрытна абцірае, наколькі гэта магчыма, бінтам гразь з раны і вакол яе. – А ўжо як "узрадуюцца" у прыёмным пакоі бальніцы: ім жа трэба распрануць яго, абмыць...

Ужо ў машыне, калі рана апрацаваная і галава забінтаваная, мужчына нешта мычыць у адказ на пытанні фельчара. Яна прыслухоўваецца – і дыктуе ўрачу прозвішча "хворага" і ўзрост.

Бываюць выпадкі "чарнаватага" гумару: парадзіха, якая жыве ў доме літаральна за тры крокі ад радзільнага дома, выклікае амаль з іншага канца горада машыну, каб завезла яе нараджаць.

Месяцы з два–тры таму а другой гадзіне ночы быў выклік у Краснае: жанчына не магла супакоіцца пасля сямейнай сваркі, пасля лыжкі валяр'янкі ўрачы паехалі назад (атрымліваецца, везлі гэтую лыжку 30 кіламетраў).

Калі школьнікі ідуць на канікулы, гэта адразу адчуваецца: узрастае колькасць несапраўдных выклікаў, што замінае ў рабоце ўсяму персаналу станцыі хуткай дапамогі. Асабліва, натуральна, рабоце брыгад, якія выязджаюць з гэтай нагоды: спальваецца бензін, марнуецца час (недзе ў гэты момант людзі сапраўды маюць патрэбу ў дапамозе). А часцей за ўсё, дарэмныя выезды – вынік п'яных жартаў, колькасць якіх у апошнія гады значна ўзрасла. Здараюцца выпадкі, калі медыкаў абражаюць і нават накідваюцца з кулакамі.

Таму з нядаўняга часу існуе дамоўленасць з намеснікам начальніка Маладзечанскага ГРАУС **Мікалаем Нехвядовічам** аб тым, каб перадаваць паведамленні пра беспадстаўныя выклікі і іншае ў міліцыю. Добра было б, вядома, каб тыя, хто працуе на выездах, мелі страхоўку, тады яны хоць не так адчувалі б сваю неабароненасць перад рэаліямі нашага жыцця.

З гэтымі рэаліямі медыкі сутыкаюцца часта, асабліва яны псуюць жыццё па начах (няма лямпачкі ў пад'ездзе, нумарацыі на дамах і кватэрах, няспраўныя ліфты і да т. п.).

Апошнія "вынаходніцтвы" – жалезныя слупы, якія жыхары дамоў, (звычайна, кааператыўных) укопваюць, каб не пад'язджалі да пад'ездаў машыны. Урачам і фельчарам даводзіцца даволі доўга падчас ісці пешкі ад машыны. А калі трэба хворага везці ў бальніцу, на насілках яго выносіць? Часцяком цяжкія насілкі цягнуць жанчыны ў белых халатах. Вядома, дапамажа шафёр. Урачы звярталіся ўжо ў "Камунальнік", але выніку пакуль не відаць.

**Заканчэнне будзе.**

***Наталля ШУМСКАЯ.***



*Фельчары Іна Чайко (злева) і Святлана Шаўлюк (справа) у службе камплектацыі (выкарыстаныя аднаразовыя шпрыцы абменьваюцца на такую ж колькасць новых).*



*«Хуткая» тут не пройдзе.*




*Фельчар Вольга Занько.*

ФОТА НАТАЛЛІ ШУМСКАЙ.

*БАЗАРНЫ ДЗЕНЬ*

## Курсы валют НБ РБ

| | 13 красавіка | 20 красавіка |
|---|---|---|
| Долар | 455,00 руб. | 465,00 руб. |
| Марка Герм. | 223,22 руб. | 224,83 руб. |
| Літ | 113,72 руб. | 116,21 руб. |
| Рас. руб. | 15,93 руб. | 16,25 руб. |
| Злоты | 110,77 руб. | 109,11 руб. |
| ЕЎРА | 436,57 руб. | 439,73 руб. |

### «Вулічныя» курсы ў Маладзечне

| | | |
|---|---|---|
| Долар | 930 – 950 руб. | 940 – 970 руб. |

## МАЛАДЗЕЧНА. Цэны ў сераду на рынку

| ПРАДУКТЫ | | ЦАНА (руб.) | |
|---|---|---|---|
| | | 12.04 | 19.04 |
| Курыныя кумпячкі | 1 кг | 1050 | **1050** |
| Кілбаса с/вэндж. | 1 кг | 4490 | **4490** |
| Сасіскі | 1 кг | 1180 | **1122** |
| Селядзец салёны | 1 кг | 700 | **670** |
| Рыс | 1 кг | 380 | **380** |
| Грэчка | 1 кг | 580 | **575** |
| Цукар | 1 кг | 265 | **258** |
| Алей | 1 л | 650 | **660** |
| Яйкі курыныя | 1 дзес. | 370 | **370** |
| Маянэз | 250 г | 140 | **140** |
| Кава "Пеле" | 100 г | 900 | **900** |
| Шпроты, бляшанка | 160 г | 290 | **290** |
| Соус там. «Мінскі» | 0,5 л | 210 | **220** |
| Лімоны | 1 кг | 950 | **900** |
| Апельсіны | 1 кг | 650 | **630** |
| Цыбуля рэпчатая | 1 кг | 150 | **150** |
| Яблыкі | 1 кг | 370 | **370** |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | | |
| Смятана | 1 л | 600 | **500** |
| Масла | 1 кг | 1300 | **1400** |
| Тварог | 1 кг | 500 | **500** |
| Малако | 1,5 л | 200 | **200** |
| Бульба | вядро | 700 | **700** |
| Яйкі курыныя | 1 дзес. | 500 | **450** |
| Морква | 1 кг | 280 | **260** |
| Капуста | 1 кг | 150 | **140** |

## Гандаль рыбай не спыняецца

Нягледзячы на забарону лоўлі рыбы ў перыяд нерасту, яе не толькі ловяць, але і прадаюць, амаль не хаваючыся.

| | |
|---|---|
| Судак (з ікрой) | 3000 рублёў |
| Шчупак | 1800 руб. |
| Лешч | 1200 руб |

***Ігар КІЦІКАЎ.***

*СПАЖЫВЕЦ*

## Парады пакупнікам

МАЛАДЗЕЧНА. Трэці год у горадзе працуе грамадская арганізацыя абароны спажыўцоў. Найбольшая колькасць заяў тычыцца сферы гандлю. Самымі папулярнымі з іх з'яўляюцца скаргі на нізкую якасць імпартнага абутку, які прадаецца на рынках горада.

Ведайце: пры любой пакупцы неабходна захоўваць чэк ці адрыўны талон. Без яго вам нельга будзе даказаць нават факт пакупкі.

### Тыповыя выпадкі скаргаў

***Пры пакупцы парасона спажыўцу сказалі, што тавар вытворчасці Японіі. Пасля пакупкі высветлілася, што тавар французскай вытворчасці. Спажыўцу вярнулі грошы.***

**Ведайце:** вы маеце права на поўную і праўдзівую інфармацыю. Калі яна няпоўная ці не адпавядае рэчаіснасці, вы можаце абмяняць тавар на іншы або вярнуць свае грошы.

***З–за хранічнай нявыплаты зарплаты работнік звольніўся з работы. Пасля звальнення на працягу двух тыдняў прадпрыемства з ім не разлічылася.***

**Ведайце:** шанцы атрымаць сваю зарплату ў вас, усё ж, вялікія. Прадпрыемства абавязанае адразу разлічыцца з работнікам. Калі справа дойдзе да суда, то яно, акрамя даўгоў, выплаціць кампенсацыю з улікам інфляцыі і плюс штраф на гэтую суму ў даход дзяржавы.

***Падрыхтаваў Юрый КАРПІЦКІ.***

*ДЭМАГРАФІЯ*

## Кожная тысяча меншае на 4 чалавекі

СМАРГОНЬ. Па падліках медыкаў, сітуацыя са смяротнасцю і нараджальнасцю на Смаргоншчыне стабілізавалася. Яшчэ летась яна была на ўзроўні 1998 года.

Аднак лічбы гэтыя вельмі горкія: у разліку на тысячу чалавек насельніцтва памірае 12 чалавек, а нараджаецца толькі 8. Летась загінула 105 чалавек, 85 з іх былі ў нецвярозым стане. Адбыліся 24 самазабойствы, у іх ліку – скончылі жыццё 2 пенсіянеры. 18 чалавек атруціліся алкаголем, чацвёра загінулі па прычыне асфіксіі. 10 чалавек патанулі гарачым летам (9 з іх былі нецвярозыя).

***Павел МАКЛЮК.***

*«РГ»–СТАТЫСТЫКА*

## Беспрацоўе

Прапануем дыяграму змянення колькасці беспрацоўных у гарадах нашага рэгіёна.

| | Колькасць беспрацоўных на 01.04.2000 | Узровень беспрацоўя |
|---|---|---|
| Маладзечна: | 1315 чал. (+124) | 2,2% |
| Маладзечанскі раён | 221 чал. (+8) | 1,0% |
| Астравецкі раён | 383 чал. (+40) | 2,4% |
| Ашмянскі раён на 01.01.2000 было 165 чал. | | |
| Валожынскі раён | 184 чал. (0) | 0,9% |
| Вілейскі раён | 519 чал. (-17) | 1,7% |
| Мядзельскі раён | 278 чал. (-23) | 1,5% |
| Смаргонскі раён | 1363 чал. (+17) | 4,1% |

**Усяго па рэгіёне**
(без Ашмянскага раёна) на 01.04.2000 **4263** чал.

У дужках паказана змяненне колькасці беспрацоўных за першы квартал 2000 года.

***Юрый КАРПІЦКІ.***

*КРЫМІНАЛ, ЗДАРЭННІ, ХРОНІКА*

## Браканьеры бываюць «аматары» і «прафесіяналы»

ВАЛОЖЫН. У раёне пачасціліся выпадкі браканьерства. У лясгасе затрымалі ўраджэнца Валожыншчыны (цяпер – сталічнага жыхара). Свой паход у лес ён тлумачыў настальгіяй па юнацтве. Што не замінула ўзяць з сабою ружжо.

У раёне вёскі Яцкава-Канчане выявілі браканьераў-"прафесіяналаў" – яны трапляюцца амаль штогод. Іх чакаюць штрафы, яшчэ да гэтага пазбаўленыя права на законнае паляванне і канфіскаваная зброя. Парушальнікі (іх трое) з'яўляюцца жыхарамі Валожына, але працуюць хто ў Мінску, хто ў Маладзечне.

***Наталля ШТЭЙНЕР.***

## У Вілейцы цягнікі спыняюцца своеасабліва

Пасажыры ранішняга прыгараднага цягніка Маладзечна–Полацк пастаянна назіраюць адну і тую ж карціну: пры ўездзе ў Вілейку цягнік, не збаўляючы папярэдне хуткасці, раптам рэзка спыняецца, чуваць шум паветра з-за сарванага стоп–крана. З вагонаў, у залежнасці ад дня, выходзіць ад 50 да 150 пасажыраў, у асноўным, навучэнцаў вілейскіх прафесіянальна–тэхнічных вучылішчаў. Адбываецца гэта з дня ў дзень, з года ў год.

Раней у гэтым накірунку ў складзе цягніка курсіравалі вагоны, дзверы якіх адчыняліся ўручную; з мінулага года пасажыраў абслугоўвае дызель-цягнік з аўтаматычнай сістэмай адчынення дзвярэй. Цяпер пасля зрывання стоп-крана неабходна прыкласці немалыя намаганні, каб адчыніць дзверы. А яны знаходзяцца пад ціскам, адпаведна пашкоджваецца аўтаматыка.

Асноўная прычына самавольнага спынення цягніка – расклад трох вілейскіх ПТВ, якія зроблены так, што навучэнцы не паспяваюць дабрацца своечасова з чыгуначнага вакзала. Ды і жыхары буйнога мікрараёна "Зеніт" не супраць, натуральна, выйсці з вагона побач з домам.

Зрываецца расклад руху цягнікоў, перарасходуецца паліва, пашкоджваецца абсталяванне дзвярэй. Штомесяц у Маладзечанскі АУС на транспарце паступае вялізная колькасць паведамленняў з чыгункі пра самавольныя спыненні цягніка. А суправаджаць яго штодзённа, няма, на жаль, магчымасці.

Перыядычна праводзяцца прафілактычныя рэйды суправаджэння. 11 красавіка ў цягніку затрыманыя двое грамадзян за зрыў стоп-крана, чацвёра – за пашкоджванне дзвярнога абсталявання.

Кіраўніцтва аддзела неаднаразова выходзіла з хадайніцтвам перад чыгункай, кіраўніцтвам Вілейкі, прафесіянальна–тэхнічных вучылішчаў аб будаўніцтве ў злашчасным месцы прыпыначнага пункта. Распрацаваны праект, вучылішчы гатовыя дапамагчы тэхнікай і людзьмі, але ўсё застаецца па-ранейшым.

***Ігар ІВАШЫНКА, старшы ўчастковы інспектар ІДН Маладзечанскага АУСТ.***

## Пра стан законнасці ў аграпрамысловым комплексе

МАЛАДЗЕЧНА. Летась на прадпрыемствах аграпрамысловага комплексу раёна здзейснена звыш за 30 карыслівых злачынстваў, дапушчана 22 няшчасныя выпадкі на вытворчасці, з іх 2 – са смяротным зыходам.

Пасля інфармацыі міжрайпракурора **Генадзя Вештарта** і начальніка ГРАУС **Яўгена Скварцова** райвыканкам у канцы сакавіка вынес рашэнне па 12 пунктах, зацверджанае старшынёй выканкома **Леанідам Зайцам** і кіраўніком справамі **Мікалаем Грышко**.

Мерапрыемствы, што праводзяцца, скіраваныя на лячэнне вынікаў, але не прычыны. Яны прадугледжваюць у красавіку–маі прыняцце мер да ўкамплектавання прадпрыемстваў і калгасаў АПК высокакваліфікаванымі кадрамі, максімальнага ўзмацнення вартавой аховы сельскіх гаспадарак, аднаўлення ў аўтагаспадарках пунктаў аховы здароўя па кантролі фізічнага стану вадзіцеляў.

Таксама ёсць распараджэнне работнікам дарожнай службы і чыгункі ў найкарацейшыя тэрміны завяршыць рамонты, а аддзелу ўнутраных спраў праводзіць сістэматычныя масіраваныя адпрацоўкі населеных пунктаў і лясных масіваў па выяўленні і знішчэнні ачагоў самагонаварэння.

***Іван ШПАЛАЎ.***

## Падлеткі з марыхуанай

АСТРАВЕЦ. Падчас начнога рэйду міліцыянеры выявілі групу падлеткаў, якія забаўляліся тым, што курылі "траўку". У 2 хлопцаў і 3 непаўналетніх дзяўчат на момант затрымання было пры сабе 27,6 грама марыхуаны.

***Наталля ЛІСКІНА.***

